


# КРЫВІНКА

ІНФАРМАЦЫЙНА-КУЛЬТУРНАЯ ГАЗЕТА БЕШАНКОВІЦКАГА РАЁНУ

№4, чэрвень 2005 года




## ПЫЛ У ВОЧЫ

Неяк, едучы праз вёску Верхняе Крывіна, я звярнуў увагу на шыльду:"Дом удзельніка вайны." Шыльда, новая, яркая, здалёк кідалася ў вочы. Відаць, мясцовыя ўлады пастараліся да 60-годдзя Вялікай Перамогі.

Але якім жахлівым кантрастам з гэтай шыльдай быў дом самаго гаспадара! Старэнькая нешаляваная хацінка з аблупленым, даўно не фарбаваным франтонам. Побач хлевушок, у якога ад старасці год вываліліся вуглы, і кожная дзірка, здавалася, крычала аб страшнай нэндзе гэтага чалавека. На падворку стаялі калёсы і іншы гаспадарчы інвентар—граблі, вілы.

Гэты малюнак што—выпадковасць, недарэчнасць? Не. Вось ён, сапраўдны твар лукашэнкаўскага развітога сацыялізму, яго "новая" эканамічная мадэль краіны, якая, па словах БТ і ОНТ, знаходзіцца на неверагодным уздыме. Тут, як у люстэрку, адлюстравалася прэзідэнтскае знакамітае:"Я Беларусь за цывілізаваным светам не павяду."

Ну ў якой еўрапейскай краіне яшчэ пераможца другой сусветнай вайны жыве ў такім жабрацкім стане? І гэта пасля ўсіх літаўраў і трамбонаў , якія паўгода рэзалі вуха, ствараючы ўражанне, што ўлады клапоцяцца аб ветэранах. Разавай падачкай да Дня Перамогі яны адкупіліся ад удзельнікаў вайны, выклікаўшы ў многіх чулую слязіну.На справе ж—пусцілі пыл у вочы. Вось такі стыль работы сучаснай улады. Пераможцаў з жабрацкіх умоваў жыцця праз 60 гадоў пасля вайны забірае толькі смерць. Менавіта пра тое, што жыццё народа незалежнай Беларусі ні на іоту не палепшылася ў параўнанні з СССРаўскім жыццём, сведчыць смертнасць нашых людцаў, значна вышэйшая за нараджальнасць.

Спадарства! Пакуль не позна, прыслухайцеся да прапаноў апазіцыі, куды уваходзіць увесь цвет нашай краіны: вучоныя, пісьменнікі, мастакі, словам, людзі, якія складаюць гонар Беларусі. **Нам трэба іншае жыццё. Нам трэба ісці цывілізаваным шляхам. Інакш—нам забяспечана яшчэ доўгае існаванне на мяжы жабрацтва.**

## АПОШНІ ПРЫПЫНАК

Аднойчы я схаваўся ад чэрвеньскага дажджу на аўтобусным прыпынку, што насупраць горгаза. Я часта бачыў яго ўтульны чысценькі тварык, калі праязджаў міма на сваім аўта. А зараз вось ён схаваў мяне ад раптоўнай непагоды. Дождж толькі-толькі пачынаўся, і я з задавальненнем разглядваў свой нечаканы прытулак.

Прыпынак меў стрэльчаты дах, тры ўпрыгожаныя разьбой драўляныя калоны, на якіх той дах і трымаўся. Знізу была нават столь, пафарбаваная ў чысцюткі белы колер. Адным словам— казка, а не прыпынак. Засмучала толькі тое, што ўсярэдзіне прыпынак быў засмечаны пустымі бутэлькамі рознага калібру і разнастайнымі абгорткамі. Але іх і сапраўды некуды дзець: ля самога прыпынку і на зрокавай сувязі ад яго няма ніводнага кантэйнера для смецця. "Не несці ж яго людзям дахаты",- апраўдаў я іх у думках.

Дождж усё узмацняўся, і дах майго нечаканага прытулку раптам пачаў працякаць так, што хутка з пафарбаванай бялюткай столі руччом палілася вада. Але самае горшае было яшчэ наперадзе: калі дождж на маіх вачах ператварыўся ў звычайны чэрвеньскі лівень, і няроўнасці каля прыпынку хутка запоўніліся вадой, яна патокам хлынула ўсярэдзіну будынiны, бо дол тут быў значна ніжэйшы, чым знадворку. Хутка пад дахам прыпынка ўтварылася вялізная сажалка, па якой плавалі бутэлькі, абгорткі, акуркі... Вось табе і прытулак! Хто ж павінен цябе дагледзець, дарагі? Хто адрамантуе дах, каб ты не згніў за 2-3 гады? Хто прывязе машыну добрага гравію,каб тут не плавалі пасажыры? Хто паставіць каля цябе ўрны, каб цябе не засмечвалі? Той уладзе, якая з апошніх сіл змагаецца з усімі бедамі такога кшталту і маштабу, гэта, пэўна, не па сілах. Ім патрэбен персанальны ўказ прэзідэнта, не ніжэй.А дзе ж яму, бедаку, усё дагледзець. За парадамі і манеўрамі—некалі. Мясцовая ж улада перад народам справаздачу як не трымала, так трымаць і не збіраецца. І да чарговых выбараў ой як доўга! А парадак наводзіць усё ж давядзецца. Людцы добрыя, падкажыце ж , што рабіць!

## ІНТЭРНЭТ-НАВІНЫ

Працягвае удаскanaльвацца сайт http://www.hasciniec.org актывістаў НДА паўночна-усходняй часткі Віцебшчыны. За апошні месяц зроблены удасканаленні дызайна сайту, а таксама значна лягчэй стала трапляць на навіны з нашых раёнаў — Віцебскага, Гарадоцкага, Бешанковіцкага, Шумілінскага. Адначасова з гэтым з'явіўся інфармер аб прагнозе надвор'я на усходні рэгіён Віцебшчыны. Таксама павялічылася колькасць ікснак партнэрскіх сайтаў з якіх магчыма атрымаць праўдзівую інфармацыю.

Важнай часткай працы над сайтам стала павелічэнне частаты апытання наведвальнікаў сайта. За чэрвень такіх апытанняў зроблена два і вынікі іх прадстаўлены вашай увазе.

**Як Вы ставіцеся да галадоўкі адлічаных па палітычных матывах з навучальных установу у г. Жодзіна?**

| | |
|---|---|
| Падтрымліваю і ўхваляю | 81,48% |
| Мяне гэта не хвалюе | 0% |
| Упершыню чую | 0% |
| Гэта нічога не дасць | 18,52% |

**Як Вы ставіцеся да прысудаў А. Клімаву, П. Севярынцу і М. Статкевічу - па 1,5-2 гады хіміі?**

| | |
|---|---|
| Гэта палітычны заказ улады | 100% |
| Не трэба парушаць існуючае заканадаўства | 0% |
| Суд праявіў гуманізм | 0% |
| Нічога пра гэта не ведаю | 0% |

НАТАТКІ З ЖЫЦЦЯ

# ЗЛАЧЫННАСЦЬ РАСЦЕ

Па дадзеных бешанковіцкай пракуратуры, з пачатку 2005 года ў раёне зарэгістравана 2 забойствы. Абодва яны былі ўчынены жанчынамі ў стане алкагольнага ап'янення. Адна з іх задушыла свайго ўласнага сына.

За распіццё алкагольных напояў на рабочых месцах да адміністрацыйнай адказнасці за 5 месяцаў прыцягнута 59 чалавек.

За кіраванне транспартам у нецвярозым стане за той жа тэрмін затрымана 68 кіроўцаў, 43 з іх пазбаўлены вадзіцельскіх пасведчанняў.

Наогул, злачыннасць у раёне за 5 месяцаў у параўнанні да адпаведнага перыяду мінулага года ўзрасла на 11,5%.

Гледачам БТ і чытачам афіцыйнай прэсы, пэўна, падаецца, што наша жыццё з кожным днём становіцца лепш і лепш, ды лічбы сведчаць іншае.

# ВОСЬ ДЫК ТУРЗЛЁТ!

У раённым турзлёце, які адбыўся 17 чэрвеня, удзельнічала ажно дзве (!) каманды— з лясгасу і ДПТВ-3 (Ула). Што называецца, прыехалі. У не такія далёкія яшчэ савецкія часы ў падобных мерапрыемствах удзельнічала 15-20 каманд.Чым жа займаецца моладзь раёна ў вольны час? Пэўна, гэта пытанне лепей задаць аддзелу па справах моладзі пры райвыканкаме або БРСМоўскім сакратарам.

# ЗНОЎ УНІФОРМА

Не паспела Міністэрства адукацыі РБ заікнуцца пра неабходнасць адзінай школьнай формы, як на старонках раённай газеты (№50 ад 28-га чэрвеня) з'яўляецца інтэрв'ю са школьнікамі, якія спрэс выказваюць задавальненне ад такога кроку. Больш таго, аказваецца сацыёлагі ўжо паспелі апытаць 120 тысяч вучняў, 70 тысяч бацькоў і 20 тысяч настаўнікаў, і 70% з іх таксама ў захапленні ад нараўвядзення. Вось цуд дый годзе! Усё ў прыродзе імкнецца да разнастайнасці, і толькі на Беларусі, Кубе і ў Паўночнай Карэі гэты закон адмаўляецца дзейнічаць.Хаця мой сын на пытанне:"Ці хацеў бы ты ў новым школьным годзе хадзіць у школьнай форме?"адказаў прыкладна так:"Ты што, з глузду з'ехаў?" Пэўна, ёсць і выключэнні з правіла.

# ДЗЕ ВЫ, ПУДОВЫЯ НАДОІ?

У чэрвені, на выдатнейшым сёлета травастоі толькі лічаныя гаспадаркі Бешанковіцкага раёна дасягнулі надою 16 кілаграмаў на карову. У сярэднім жа па раёну надой складае толькі каля 12 кілаграмаў на галаву. Просты арыфметычны падлік паказвае, што такая вось "сярэдняя" карова дасць за год меньш 3 тон малака. І чаго яшчэ можна чакаць ад гэтых, закарэлых па самыя вушы, высахлых за зіму ратавальніц нашых гарадоў! Яны і ёсць сапраўдны твар нашых калгасаў, які не паправяць ніякія аграгарадкі з усімі выгодамі. І, зразумела, ніякага параўнання з "капітал істычным тварам"— тлустымі фермерскімі каровамі з іхнім гадавым надоем на галаву 6-8 тон. Што, зноў "Даеш калгасы!"ці, можа, "Дагонім і перагонім Амерыку!"?

# ХТО НЕ КУРЫЦЬ

у Бешанковічскім райгазе, атрымоўвае прыбаўку да сваёй зарплаты ў памеры 51 000 рублёў. Гавораць, што курыць кінуў увесь калектыў—ад дырэктара да слесара. А гэта ні многа ні мала— 48 чалавек. Ці трэба яшчэ якія довады для тых, хто яшчэ мае сумненні, што з курэннем можна паспяхова змагацца?

# СУМНАЯ ГАДАВІНА

Споўніўся роўна год, як закапалі ў зямлю ранчыцкую малочнатаварную ферму. Будынак, дзе яшчэ ў 2000-м годзе стаяла 150 галоў дойнага статку, а потым год ці два цяляты, пэўна, "псаваў" сваім выглядам від з вакна прэзідэнтскага мерседэса, які летась меў намер паехаць гэтым шляхам на чарговы "Базар".Стаяў ён усяго ў 150-дзесяці метрах ад дарогі Мінск—Віцебск.

Выйсце з сітуацыі знайшлі неардынарнае. Да яшчэ моцнай будыніны з цагляными мурамі і шыферным дахам падагналі экскаватар, які за 2 ці 3 дні выкапаў катлаван, куды і была спіхнута будыніна. Мясцовыя жыхары не змаглі ўзяць з аб'екта ні цвіка ні дашчэчкі—настолькі аператыўна было ўсё зроблена. Праўда наступны аб'ект, які падлягаў тэрміноваму знішчэнню—старую канюшню, мясцовыя жыхары за суботу і нядзелю літаральна разнеслі па цагліне. Ламавікам, што прыехалі ў панядзелак, засталося толькі пахаваць грудок друзу. Чаму ўсё гэта ўспомнілася? Нядаўна, чэрвеньскай раніцай я праходзіў міма гэтых "дабраўпарадкаваных" аб'ектаў. Бур'ян у паўтара чалавечага роста вышынёй на месцы ранейшых будынкаў—вось і ўсё, што атрымаў народ у выніку гэтага "дабраўпарадкавання". Каму ж замінаці будынкі? Чаму было не выставіць капітальныя забудовы на аукцыён? Хто, урэшце, аўтар такога рашэння праблемы?

# НА ШЛЮЗЕ ПАКУЛЬ ШТО ЦІХА

Пакуль што ў раёне шлюза, што на рацэ Крывінка, каля вёскі Старыя Ранчыцы—цішыня.

Халаднаватае надвор'е і дажджы не дазваляюць адпачываючым зрабіць сюды масавы выезд. Але пры спрыяльным надвор'і мясцовыя краявіды ўмомант ажывяцца. У мінулыя гады тут адначасова адпачывала больш за 100 чалавек! Няма тут ні пясочка на пляжы, ні кабінак, каб пераапранацца, ні урнаў для смецця, ні кафэ, дзе можна асвяжыцца халаднаватым напоем. Што ж прыцягвае сюды адпачываючых? Крыштальнай чысціні вадзіца,(калі яе не замуціць калгасны статак, які тут рэгулярна пояць), магчымасць скочыць у ваду з 3-4-х мятровай самаробнай дошкі ды пастаяць пад вадаспадам, які ліецца праз шлюз. Калі б мясцовыя ўлады былі больш развароглівымі, то яны б не ўпусцілі магчымасць значна папоўніць тут свой бюджэт. Толькі за адзін летні дзень на шлюзе можна аказаць платных паслуг для адпачываючых не меньш за 1 млн рублёў.

# НА СЕСІІ РАЙСАВЕТА

14 чэрвеня адбылася чарговая сесія райсавета, на якой разглядаліся пытанні па паляпшэнню гандлёвага абслугоўвання насельніцтва раёна. Вельмі станоўча, што райпа не ўдалося сваімі лічбамі аб выкананні і перавыкананні завесці ў стан заспакоенасці кіраўніцтва раёна. Скарачаецца колькасць магазінаў на сяле. Толькі дурань здае сваю прадукцыю праз нарыхтоўчыя канторы—такія нізкія тут закупачныя цэны. Не развіваецца прыдарожны сервіс. І гэта малы пералік усіх недахопаў, якія прагучалі ў бок райпа. Аб гэтым паведаміла раённая газета "Зара" ад17 чэрвеня.

# СЕНАЖАЦІ ГУДУЦЬ

Апошні тыдзень наваколле Старых Ранчыц шторанне абуджае стрэкат сенакасілак.Нарэшце надвор'е злітавалася над нялёгкай сялянскай доляй і дазволіла, хаця і са спазненнем, пачаць масавую нарыхтоўку сена. Травы даўно ўжо перастаялі—нічога не зробіш. Але хоць такога сена трэба нарыхтаваць не меньш 3-х тон на карову. Летні дзень—год корміць. А зіма спытае ў нядбайнага гаспадара па ўсёй строгасці.

# КОЛА ДЗЁН

Першы месяц лета прайшоў пад знакам працягу рэпрэсій уладаў супраць іншадумства на Беларусі.

Па-першае, улады працягвалі ціск на палітычныя партыі праз патрабаванне юрыдычных адрэсаў партыйных структур на офісах. Гэта квазі-прававы крок Мінюста да палітычных партый з'яўляецца доўгатэрмінова прапрацаванай аперацый па знішчэнню палітычных апанентаў. Якая прадпрымальніцкая структура прадаставіць памяшканне для апазіцыйнай структуры, калі адразу магчыма апынуцца пад шквалам разаральных праверак? Колькі будзе каштаваць арэнда для мясцовай суполкі невялічкага афісу? Не меней 25 000 рублёў у месяц. Гэта ціск вядзе да масавай ліквідацыі афіцыйнага статуса дэмакратычнай апазіцыі.

Па-другое, прайшоў чарговы судовы працэс супраць адзінай штодзеннай апазіцыйнай газеты Беларусі «Народнай волі». Псеўда-апазіцыянер Гайдукевіч выставіў зыск да газеты ў памеры 200 млн. рублёў. дзеля абароны гонару і атрымання маральнай кампенсацыі. Сума ў дзесяткі разоў вышэй кампенсацыі сем'ям дзяцей якія загінулі ў даўцы на станцыі «Няміга». І пры нашым справядлівым судзе атрымаў 100 млн. кампенсацыі. Для суцяшэння.

Па-трэццяе, улады пачалі жорсткі пераслед усіх іншадумцаў на Беларусі, якія маюць намер правесці сходы па абранню дэлегатаў на Кангрэс па абранню адзінага кандыдата ад апазіцыі на выбарах 2006 г.. Пры гэтым ахвярамі пераследу становяцца самыя актыўныя грамадзяне Беларусі: ў Гомелі – супрацоўнік музея, дэпутат гарсавету Юрась Глушакоў, ў Жлобіне – камуніст, намеснік начальніка цэху металургічнага заводу Валерый Рыбчанка, у Віцебску актывіст незарэгістраванага «Маладога Фронту» Яніс Чучман.

Асобнай падзеяй чэрвеня стаіць шматдзённая галадоўка Сяргея Скрабца, былога дэпутата Палаты, кіраўніка апазіцыйнай групы «Рэспубліка». Галадоўка распачата з 15 мая, з першага дня затрымання Скрабца ў Берасце. Такое адчуванне, што уладам мала аказалася матэрыялу пра 200 млн. даляраў, якія быццам везліся праз мяжу для Скрабца і вырашаны канчаткова засудзіць апазіцыйнага палітыка. Але мужнасць дэпутата можа прывесці да першай смяротнай галадоўкі на Беларусі.

У чэрвені беларускія прадпрымальнікі атрымалі рашэнні уладаў па вырашэнню праблемы падатка на дабаўленую вартасць. Пры салодкіх каментарыях уладаў у выніку такой дапамогі правінцыйныя прадпрымальнікі павінны плаціць амаль у два разы больш падаткаў. Але пра гэта ўжо асаблівая гаворка.

**Л. Гаравы.**

# ДЗЕНЬ 41-Ы: СЯРГЕЙ СКРАБЕЦ НЕ СПЫНЯЕ ГАЛАДОЎКІ ЗА КРАТАМІ

24 чэрвеня інфармацыю пра стан здароўя Сяргея Скрабца нечакана пераказаў вядомы адвакат і праваабаронца Гары Паганяйла. Ён спаслаўся на добра вядомыя яму крыніцы і распавёў пра тое, што робіць апошнім часам у сьледчым ізалятары былы дэпутат:

(Паганяйла: ) "Канечне, ён працягвае галадаваць. Але ён не хацеў бы цяпер афішаваць гэтага, дзеля таго, каб не нанесьці траўмы бацькам. Аднак для таго, каб запрацавала перыстальтыка (а Скрабец вельмі дасьведчаны галадоўнік), ён зрабіў на некалькі дзён перапынак. Сапраўды, каб прымусіць запрацаваць перыстальтыку, ён пачаў ужываць сокі. І ўсё. А потым ён зноў вернецца да галадаваньня з ужываньнем выключна вады, для таго, каб працягнуць гэтую акцыю. Сама ідэя спыніць галадаваньне ім не ўспрымаецца".

Як сьведчаць лекары, падчас галадаваньня арганізм знаходзіцца ў стане фізіялягічнага адпачынку. Паколькі ежа ў арганізм не паступае, дык спыняецца перыстальтыка кішэчніка.

Фактычна тое ж самае мне распавёў сёньня і адвакат Скрабца Міхаіл Хоміч, які наведаў яго ў камэры сьледчага ізалятару ўвечары 24 чэрвеня:

(Хоміч:) "Чырвань нейкая. Схуднеў з твару. Вусны чырвоныя, пакусаныя... Зрэшты, я магу сказаць, што ён прытрымліваецца сваёй сыстэмы галадаваньня".

Сёньня стала вядомым імя новага сьледчага, які пачаў весьці справу Сяргея Скрабца. Ім стаў сьледчы ў асабліва важных справах рэспубліканскай пракуратуры Вячаслаў Цераховіч. Малодшы брат экс-парлямэнтара Аляксандар гаворыць, што ён ведае гэтага супрацоўніка праваахоўных органаў:

(Скрабец:) "Ён даўно ўжо займаецца гэтай справай, гады тры".

(Карэспандэнт:) "Маецца на ўвазе справа "БелБабаеўскага"?"

(Скрабец:) "Так, гэтая крымінальная справа застаецца".

Нагадаю, што ў красавіку 2003 году супраць Сяргея Скрабца завялі першую справу — тады яго абвінавацілі ў выманьваньні крэдытаў у дзяржавы ў той час, калі ён узначальваў Гандлёвы дом "БелБабаеўскі". Паводле намесьніка генэральнага пракурора Беларусі Мікалая Купрыянава, абедзьве крымінальныя справы цяпер аб'яднаныя ў адну. А берасьцейскі сьледчы Андрэй Ліванаў, паводле ягоных словаў, цяпер будзе займацца выключна той часткай, якая тычыцца другога абвінавачаньня — падрыхтоўка да злачынства і хабарніцтва.

***Уладзімер Глод, Менск.***

# ЗВОЛЬНЕНЫ ЛІДЭР КАМУНІСТАЎ ЖЛОБІНУ

Дырэкцыя Беларускага металюргічнага заводу звольніла з працы намесьніка начальніка цэха, старшыню Жлобінскай раённай арганізацыі Партыі камуністаў Беларускай Валера Рыбчанку. Пакуль актывіст у судзе аспрэчваў папярэднія вымовы адміністрацыі, выйшаў загад пра ягонае звальненьне.

У загадзе на звальненьне Валера Рыбчанкі, падпісаным выканаўцам абавязкаў генэральнага дырэктара Віктарам Мачкіным, сказана, што звальняецца ён за сыстэматычнае невыкананьне без паважных прычынаў абавязкаў, ускладзеных працоўнай дамовай.

(Рыбчанка:) "Дырэкцыя давяршыла пачатае, каб пазбавіцца ад мяне як актывіста Партыі камуністаў Беларускай. І зрабіла гэта даволі хутка, усяго за паўдня. Дамагаецца паказаць астатнім: вось што мы робім зь любым актывістам, любым іншадумцам".

Сам Валер Рыбчанка зьбіраецца ў судах аспрэчваць свае пакараньні і звальненьне.

# У оппозиции начались критические дни

**_Продлиться они могут до президентских выборов, а результат вполне прогнозируем — вместо противостоящих режиму партий и общественных объединений на политической сцене Беларуси должно остаться лишь воспоминание._**

Сразу после прошлогоднего референдума Министерство юстиции разослало всем партиям и общественным объединениям письмо «О юридических адресах», в котором информировало получателей о необходимости изменить юридические адреса организационных структур, которые размещаются в квартирах. Срок на выполнение поручения был дан до 1 февраля.

Во-первых, снимать офис — дорогое удовольствие. Как высказался лидер Либерально-демократической партии **Сергей Гайдукевич**, *«нужно быть Рокфеллером, чтобы содержать все региональные объединения в офисах»*.

Во-вторых, изменение юридического адреса вынуждает региональные структуры вносить изменения в документы, поданные в местные учреждения юстиции. Практика показывает, что даже в мелочах низовые структуры партий и общественных объединений не всегда могут договориться с работниками исполкомов.

В общем, почти все оппозиционеры оттягивали решение «квартирного вопроса», как могли. Однако 1 февраля наступило неизбежно, и все разговоры о правовых и практических аспектах смены адреса разбились о вполне понятные устремления властей. Тем не менее в феврале Минюст продлил срок выполнения политическими партиями и общественными объединениями требования касательно юридических адресов. Очередной «день икс» наступил в минувшую среду, 1 июня. Отсрочка, вероятно, была обусловлена желанием Минюста соблюсти приличия в отношениях с партиями и НГО. Теперь срок истек, и милостей от Минюста больше ждать не стоит. *«Времени было достаточно. Теперь необходимо поставить точку в этом вопросе. Структуры, не выполнившие необходимую процедуру перерегистрации, будут сниматься с учета»*, — заявил на пресс-конференции 1 июня министр юстиции **Виктор Голованов**.

Сами партии к этому дню подошли по-разному. Те из них, которые не нашли возможности получить офисное помещение, начали разрушаться в судебном порядке. Например, в последние дни мая Верховный суд принял решение об упразднении двух районных структур Партии БНФ в Гродно. Основанием для ликвидации стало нахождение юридических адресов ячеек в жилом фонде.

Объединенная гражданская партия сама пошла на частичную ликвидацию своих низовых структур и сняла с учета порядка 15 своих региональных организаций. *«Если даже мы ликвидируем свои структуры в регионах, наши активисты, которые проживают на данных территориях, вне партии не остаются. В соответствии с уставом партии мы прикрепляем этих людей к ближайшим региональным структурам»*, — сообщил зампредседателя ОГП **Сергей Альфер**.

Лидер партии **Анатолий Лебедько** необходимость ликвидации своих структур в регионах расценивает как кампанию репрессий накануне президентских выборов, которую начинает власть в отношении оппозиции: *«Безусловно, фактическая ликвидация оргструктур снижает наши возможности как политической структуры в контексте избирательных кампаний* **(партии, у которых нет зарегистрированной структуры на местах, не смогут выдвигать на данной территории своих кандидатов в депутаты в ходе парламентских и местных выборов. — Д.В.)**. *Но мы реалисты и понимаем, в какой живем стране. Власть желает любыми способами свести влияние партий внутри страны к нулю»*.

В целом большинство белорусских партий в отведенный им период, как и ОГП, частично ликвидировало низовые структуры, а затем пыталось присоединять людские ресурсы исчезнувших организаций к тем, которые имеют офисные помещения.

Ситуация с неправительственными организациями отличается ненамного.

— *Сегодня спокойно себя в Беларуси могут чувствовать те общественные объединения, которые практически не касаются политических вопросов, заявляют о своей прогосударственной позиции*, — говорит **Елена Тонкачева**, возглавлявшая ликвидированное ОО «Независимое общество правовых исследований». — *Оказывать давление на общественные объединения системно начали в 1999 году. Тогда Минюстом специально была проведена перерегистрация общественных объединений с целью «навести порядок» в третьем секторе. Это произошло за полтора года до парламентских выборов. В 2003 году, опять-таки за год до начала электорального процесса, было ликвидировано порядка 50 общественных организаций. Сегодня, за год до президентских выборов, мы видим вмешательство в процесс деятельности общественных обьединений. Третий сектор стараются отвлечь от профессиональной деятельности и заставить решать «квартирный вопрос»*.

По словам Е.Тонкачевой, *«в последние полгода ряд видных общественных объединений, таких как Белорусский Хельсинкский комитет, Белорусская организация трудящихся женщин, был вынужден пойти на ликвидацию своих низовых структур. А что делать? Не снимешь свою региональную структуру с учета в управлении юстиции самостоятельно — это сделают за тебя, а общественной организации за неповоротливость выпишут еще и предупреждение»*.

Отвечая 1 июня в ходе пресс-конференции на вопрос корреспондента *«БДГ»*, Виктор Голованов сообщил, что до 6 июня управления юстиции на местах должны снять с учета региональные структуры общественных объединений и политических партий, которые все еще располагаются в квартирах. Кто не разбежался, Минюст не виноват.

**Дмитрий ВОЛКОВ**, *«Белорусская деловая газета»*.

# «КАЛІ ІХ ВЫКЛІКАЛІ ДА ДЫРЭКТАРА ТРЭЦІ РАЗ, ДЗЕЦІ ПАЧАЛІ АДМАЎЛЯЦЦА АД СВАІХ ПОДПІСАЎ»

***Ганна Соусь, Менск.** У Менскім гаспадарчым судзе адбыліся перадсудовыя гутаркі рэдактара "Народнай Волі" з прадстаўнікамі салігорскага прадпрыемства "Беларуськалій" і горна-хімічнага тэхнікуму Салігорску. Гэтыя ўстановы праз суд абараняюць сваю дзелавую рэпутацыю ў сувязі з тым, што ў "Народнай Волі" пад зваротам руху "Воля народу" былі надрукаваныя подпісы іх работнікаў і навучэнцаў.*

З Салігорску ў Менскі гаспадарчы суд прыбылі прадстаўніца "Беларуськалію" і дырэктар горнахімічнага тэхнікуму Салігорску разам з адвакатам. Усе яны адмовіліся патлумачыць для Радыё Свабода сутнасьць сваіх прэтэнзіяў да "Народнай Волі". У салігорскім тэхнікуме пад зваротам руху "Воля народу" падпісаліся 37 студэнтаў, і большасьць зь іх потым адмовіліся ад сваіх подпісаў альбо сказалі, што ня ставілі іх. Вось што распавёў Радыё Свабода студэнт тэхнікуму Уладзімер Лемяш, які зьбіраў подпісы:

(Лемеш: ) "Калі я зьбіраў подпісы, мне гаварылі, што яны нідзе друкавацца ня будуць, што гэта будзе піяр-акцыя. Пры мне падпісаліся чалавек дзевятнаццаць. Ліст з подпісамі быў у іншых групах. Калі пачалося разьбіральніцтва, дзеці спачатку трымаліся. Пасьля трэцяга разу, калі іх выклікалі да дырэктара, яны пачалі адмаўляцца. Іх сабралі ў адну групу, далі лісты, дзе ўсё загадзя было напісана, і яны пад гэтым падпісаліся".

Як паведаміў Радыё Свабода галоўны рэдактар "Народнай Волі" Іосіф Сярэдзіч, у часе перадсудовай гутаркі бакі імкнуліся знайсьці кампраміс. Днямі ў "Народнай Волі" будзе надрукаваны артыкул, у якім будуць выкладзеныя пазыцыі кіраўніцтва тэхнікуму і самой рэдакцыі, і на гэтым канфлікт можа быць вычарпаны. Што да судовых прэтэнзіяў прадпрыемства "Беларуськалій", то, паводе Сярэдзіча, канфлікт, верагодна, можа быць вырашаны аналягічным чынам, і справа ня дойдзе да суду.

Калі пазовы "Беларуськалію" і салігорскага тэхнікуму былі без матэрыяльных патрабаваньняў, то чацьвёра супрацоўнікаў "Беларуськалію" патрабуюць ад "Народнай Волі" кожны 50 мільёнаў рублёў. І заўтра ў Ленінскім судзе пачнецца судовае разьбіральніцтва гэтых пазоваў. А 9 чэрвеня суд пачне разглядаць аналягічныя пазовы чатырох жыхароў Клецку, кожны зь якіх хоча атрымаць ад "Народнай Волі" 5 мільёнаў рублёў.

# АЛЯКСАНДАР КАЗУЛІН ПАПРАСІЎ ПРАБАЧЭНЬНЯ Ў СЯБРАЎ СТВОРАНАГА ІМ РУХУ "ВОЛЯ НАРОДУ"

***Уладзімер Глод, Менск.** Патэнцыйны кандыдат у прэзыдэнты Беларусі перапрасіў прабачэньня ў сваім артыкуле, які надрукаваны ў сёньняшнім нумары газэты "Народная Воля".*

Аляксандар Казулін называе асноўныя прычыны, якія прывялі да памылак і, паводле яго ных словаў, падштурхнулі яго ў хітра расстаўленую пастку. Па-першае, вялікі страх жыхароў Беларусі, з-за якога некаторыя падпісанты звароту ў падтрымку руху "Воля народу" наўмысна сказалі свае прозьвішчы, ставілі несапраўдныя ініцыялы. Да гэтага дадаецца і моцны ціск на тых, чые прозьвішчы былі надрукаваныя. Некаторыя асобы ня вытрымалі і заявілі, што яны сваіх подпісаў пад зваротам ня ставілі. Яшчэ адна прычына, якую называе спадар Казулін, нядобрасумленнасьць некаторых зборшчыкаў подпісаў, якія падкінулі ў сьпіс долю "мёртвых душаў". І, нарэшце, як сьцьвярджае спадар Казулін, высьветлілася, што сярод зборшчыкаў подпісаў створанага руху апынуліся і прафэсійныя правакатары.

Палітолягі падкрэсьліваюць: прызнаньне ўласных памылак ня ёсьць характэрнай рысай беларускіх палітыкаў — як афіцыйных, так і апазыцыйных. І таму ўчынак Аляксандра Казуліна выразна адрозьніваецца ад іншых. Як ягоныя прабачэньні могуць паўплываць на імідж спадара Казуліна? Журналіст і палітоляг Аляксандар Класкоўскі лічыць, што гэтае пытаньне ня простае:

(Класкоўскі: ) "З аднаго боку, гэты жэст сапраўды выглядае высакародным. Аднак, насамрэч, я думаю, гэта, хутчэй, перадусім тактычная дапамога рэдакцыі "Народнай Волі", якая цяпер атачаная судовымі пазовамі, і наагул пад пагрозай закрыцьця. Што ж тычыцца грамадзкага рэзанансу, дык выпраўленьню іміджу створанага руху, іміджу навасьпечанага палітыка Казуліна, то тут ёсьць вялікае пытаньне.

# ДЭПУТАТА РАМУАЛЬДА ЎЛАНА ПАЗБАВІЛІ ПАЎНАМОЦТВАЎ

Сяргей Астраўцоў, Горадня. **Дэпутаты Смаргонскага раённага Савету аднагалосна пазбавілі дэпутацкіх паўнамоцтваў прадстаўніка мясцовых дэмакратычных колаў Рамуальда Улана. Ён — прадпрымальнік, у нядалёкім мінулым — заснавальнік і рэдактар "Новой газеты Сморгони", для закрыцьця якой улады зрабілі шмат намаганьняў.**

Летась спадара Улана засудзілі да двух гадоў калёніі — пасьля таго, як ён, едучы на машыне, па неасьцярожнасьці зьбіў жанчыну на ровары, якая засталася жывой. Паводле смаргонскага праваабаронцы Алеся Дзергачова, экспэрты прызналі Улана невінаватым у здарэньні, і прысуд быў неапраўдана жорсткім. У жанчыны была зламана ключыца і пашкоджаны пазваночнік, у рашэньні суду гаварылася, што яна атрымала інваліднасьць. Для параўнаньня: летась міліцыянт у Слоніме зьбіў насьмерць дзяўчыну і ўцёк зь месца здарэньня, суд пакараў яго абмежаваньнем волі —гэтак званай "хіміяй".

Летась Улану паводле амністыі скасавалі адзін год пакараньня. У калёнію ён ня трапіў, а сёлета ўвогуле падпадаў пад амністыю, абвешчаную да Дня перамогі. Паводле Дзергачова, дакумэнты аб амністыі Улана і — адпаведна поўным скасаваньні тэрміна пакараньня суд павінен быў разгледзець напярэдадні сэсіі райсавету, але судовае паседжаньне не адбылося. А 22 чэрвеня спадара Улана пазбавілі дэпутацкіх паўнамоцтваў.

# ЦІ БУДЗЕ ПРЫВАТНЫМ ПРАДПРЫМАЛЬНІКАМ ЛЯГЧЭЙ ПРАЦАВАЦЬ ПА НОВЫМ ПРЭЗЫДЭНЦКІМ УКАЗЕ?

**Валер Карбалевіч, Менск.** *Новая перадача сэрыі "Экспэрты за Свабоды". Удзельнікі: намесьнік кіраўніка Віцебскай абласной філіі аб'яднаньня "Пэрспэктыва" Барыс Элькін зь Віцебску і юрыст Сяргей Балыкін зь Менску.*

(Валер Карбалевіч: ) "Ужо колькі дзён Беларускае тэлебачаньне распавядае пра тое, які важны ўказ выдаў Лукашэнка і як задаволеныя ім прадпрымальнікі. У пэўным сэнсе ў гэтым дакумэнце сапраўды зроблены крок насустрач прыватным прадпрымальнікам. Адным з галоўных іхных патрабаваньняў падчас страйку ў лютым-сакавіку гэтага году была адмена падатку на даданую вартасьць. Але Лукашэнка падчас сустрэчы з прадпрымальнікамі 10 сакавіка цьвёрда заявіў, што гэты падатак плаціць давядзецца. І ягоны ўказ ад 24 сакавіка 2005 году таксама прадугледжваў уплату падатку на даданую вартасьць.

Але ў новым указе №285 "Аб некаторых мерах дзеля рэгуляваньня прадпрымальніцкай дзейнасьці" ад 18 чэрвеня фактычна даецца магчымасьць замест гэтага падатку плаціць павышаную стаўку адзінага падатку. Ці можна гэта разглядаць як крок улады насустрач прадпрымальнікам?"

(Барыс Элькін: ) "Ва ўладаў адна мэта. Ёй страшна патрабуюцца грошы і хуткія грошы, якія трэба недзе ўзяць. Я б ня стаў казаць, што гэта ёсьць крокам насустрач прадпрымальнікам. У гэтым указе няма захадаў дзеля паляпшэньня становішча прадпрымальнікаў".

(Карбалевіч: ) "Хачу ўдакладніць, што для прадпрымальніка лепш: плаціць павышаны адзіны падатак альбо падатак на даданую вартасьць?"

(Элькін: ) "Па вялікім рахунку, розьніцы няма. Альбо заплаціць падатак на даданую вартасьць зь вялікаю колькасьцю папераў і разарыцца, альбо заплаціць вялікі адзіны падатак і разарыцца. Фінал у п'есы адзін".

(Сяргей Балыкін: ) "Паводле новага ўказу плаціць давядзецца больш прыкладна ў тры разы. Падатак на даданую вартасьць можна замяніць адным падаткам у цьвёрдых сумах, які вызначаецца па формуле: адзіная стаўка падатку памножаная на тры. Прадпрымальнікам давядзецца падняць цэны на свае тавары. Шмат хто зь іх пакіне бізнэс. Але ўсё ж плаціць адзіны падатак у цьвёрдай суме лепш, чым вылічваць самому падатак на даданую вартасьць, альбо, што яшчэ горш, калі яго вызначаць нейкія кантрольныя органы".

(Карбалевіч: ) "Указ прадугледжвае новыя абмежаваньні ў дзейнасьці прыватных прадпрымальнікаў. Так ім забараняецца мець больш за чатыры гандлёвыя і іншыя аб'екты, уключна з транспартнымі сродкамі. Як гэта можна пракамэнтаваць?"

(Элькін: ) "У выніку ўказу прадпрымальнікам стала горш. Дзяржава ўсімі сродкамі абмяжоўвае прыватную ініцыятыву, умешваецца ў эканамічныя працэсы, якія самарэгулявальныя. **Як я разумею, пастаўленая мэта зьнішчыць прыватную ініцыятыву. І пад гэты плян зьявіўся такі ўказ.** Адзін прыклад з прыватнымі крамамі. Яны плацяць 78% падаткаў, а дазволеная нацэнка — 30%. І аддзел цэнаў аблвыканкаму можа зачыніць усе прыватныя крамы, пазбавіць ліцэнзіі за два тыдні, таму што яны ўсе вымушаныя парушаць правілы цэнаўтварэньня.

Што тычыцца абмежаваньня ў валоданьні чатырма аб'ектамі. Дасюль моцнага кантролю ў абмежаваньні мець ня больш за трох наёмных супрацоўнікаў не было, то цяпер ён зьявіцца. І калі ўбачаць парушэньні ў колькасьці супрацоўнікаў ці аб'ектаў, то прадпрымальніка пазбавяць ліцэнзіі".

(Балыкін: ) "Гэтыя абмежаваньні ў чатыры аб'екты я лічу самым небясьпечным у гэтым указе. Дадзены ўказ замяніў дэкрэт №4, які страціў сваю сілу. Новыя абмежаваньні пашырыліся і сталі больш жорсткімі. Невядома, як будзе рэалізавана гэтае абмежаваньне на чатыры аб'екты на практыцы. Не выключаю такой трактоўкі гэтага палажэньня, што прадпрымальнік можа мець альбо чатыры шапікі, альбо тры шапікі і склад, альбо адзін шапік, два аўтамабілі і адзін склад.

Таксама небясьпечным зьяўляецца тое, што ўказ уводзіць новыя жорсткія штрафы. Уводзіцца абавязковае запаўненьне кнігі ўліку тавараў. **І любыя недакладнасьці ва ўліку караюцца штрафам да 50 базавых адзінак.** Калі прадпрымальнік ня мае на працоўным месцы копіі дакумэнту аб уплаце адзінага падатку, то можа быць аштрафаваны на пяць базавых адзінак. І такіх прыкладаў шмат. Усё гэта сьведчыць пра тое, што ўлада імкнецца закруціць гайкі, паставіць прадпрымальнікаў у больш жорсткія ўмовы. Разуменьне эканамічных праблемаў кіраўніцтвам дзяржавы, Лукашэнкам такое, што прадпрымальнікі павінны быць уключаныя ў нейкі дзяржаўны мэханізм, зьяўляцца "шрубам". І, паводле такіх уяўленьняў, дзяржава павінна кіраваць прадпрымальнікамі адміністрацыйнымі мэтадамі. І гэты ўказ цалкам адпавядае такой дзяржаўнай палітыцы".

(Карбалевіч: ) "Якая рэакцыя прадпрымальнікаў на гэты дакумэнт? Якія асноўныя прэтэнзіі да яго, прапановы?"

(Элькін: ) "Мы прапануем альтэрнатыву яшчэ з сакавіка. Яе сутнасьць палягае ў арганізацыі па расейскім варыянце — спрошчаная сыстэма мытнага афармленьня і транспартыроўкі грузаў з краінаў (Турэччына, Кітай), дзе тавар купляецца. Але ўлады нашых прапановаў не падтрымалі. Гэты ўказ выклікаў моцную нэгатыўную рэакцыі прадпрымальнікаў. Таму што галоўны яго сэнс — штрафы і забароны. Учора ў Менску пачала працу нарада старшыняў саветаў рынкаў (гэта новыя органы, створаныя паводле папярэдняга ўказу Лукашэнкі), прадстаўнікоў грамадзкіх аб'яднаньняў, прафсаюзаў прадпрымальнікаў. Абмяркоўваецца гэты ўказ. І стаўленьне да ўказу адмоўнае. Таму што немагчыма будзе працаваць, прадпрымальнікі страцяць усё. Распрацоўваецца дакумэнт, які будзе надрукаваны, дасланы ў органы ўлады. Ёсьць надзея, што яшчэ нешта можна зьмяніць да 1 жніўня, зь якога ўказ уступае ў сілу.

Трэба мець на ўвазе такую акалічнасьць. Калі ў Менску прадпрымальнікі яшчэ змогуць выжыць, то, напрыклад, у Віцебску альбо ў малых гарадах (Лёзна, Гарадок і іншых) сытуацыя горшая. Там у насельніцтва мала грошай, а значыць, ня могуць зарабляць і прадпрымальнікі".

(Элькін: ) "Дарэчы, учора група тэлежурналістаў з тэлеканалу ОНТ прыехала на нашую прадпрымальніцкую нараду. Яны, нібыта, бралі інтэрвію ў трох прадпрымальнікаў зь невялікіх гарадоў. Я стаяў побач і бачыў, што падчас гэтага інтэрвію быў адключаны мікрафон. Я разумею, здымалі малюнак, каб потым уставіць свае камэнтары".

# АДЗНАЧЫЛІ 81-Ы ДЗЕНЬ НАРАДЖЭНЬНЯ ВАСІЛЯ БЫКАВА

У вёсцы Бычкі, дакладней, у мэмарыяльным музэі Васіля Быкава я не была каля году. І, як на мой погляд, зь леташняга адкрыцьця там нічога не зьмянілася: нават драўляная новая хатка, адбудаваная паводле аўтэнтычнага праекту на месцы зьнесенай хаты сям"і Быкавых, зусім не пацямнела за зіму. Але за гэты час, кажа ўдава малодшага брата пісьменьніка і цяперашняя наглядчыца музэю Антаніна Быкава, тут пабывала вельмі шмат людзей – столькі, колькі ў Бычках, дзе сёньня жывуць усяго 23 чалавекі, ня бачылі ўжо даўно.

(Антаніна Быкава: ) «Прыяжджаюць! І школьнікі, што ў вандроўкі ходзяць, і з санаторыі "Лясныя азёры" аўтобуса тры, мусіць, былі. Зімой дык дарогу да нас занесла, неяк дабірацца было, а цяпер дык лета. Сястра Васіля стрыечная во прыехала, і пляменьніцы з мужамі. Сястра дык была тут і летась, а гэтыя маладзейшыя – упершыню. Многа, многа сюды хто езьдзіць!»

Акрамя сваякоў, у быкаўскім музэі сутрэліся ўчора прадстаўнікі віцебскага абласнога Таварыства беларускай мовы і культурна-асьветнага цэнтру імя Язэпа Драздовіча, якім кіруе Ада Райчонак з Шаркоўшчыны. Проста ў музэі яны правялі імпрэзу, прысьвечаную Васілю Быкаву – віцебскі паэт Давід Сімановіч пачытаў вершы, бард Георгі Станкевіч зь Бешанковічаў прасьпяваў некалькі ўласных песень, старшыня абласной Рады ТБМ Іосіф Навумчык падараваў музэю ксэракопіі малюнкаў Васіля Быкава, якія, дарэчы, будуць уключаныя ў другое выданьне кнігі "Быкаў на "Свабодзе", і некалькі фотаздымкаў з мінулагодняга адкрыцьця і сьвяткаваньняў 80-х угодкаў Васіля Быкава. Як і ў мінулым годзе, невялічкую экскурсію па мэмарыяльным музэі папрасілі правесьці сястру пісьменьніка, Валянціну Быкаву.

(Валяніна Быкава: ) «Так, мой брат. Гэта яшчэ пашукаць трэба такога брата! Такі ён быў добры, чулы, такі сумленны быў, што нават бяз сьлёз і гаварыць не магу пра яго.

Спадарыня Валянціна вельмі прачула распавядала пра свайго брата, згадвалі свайго земляка аднавяскоўцы, і музэйная "Кніга водгукаў" папоўнілася за ўчорашні дзень яшчэ дзесяткам надпісаў удзячных наведнікаў.

Летась у Бычкі прыяжджалі шматлікія прадстаўнікі дзяржаўных уладаў: і раённых, і абласных. Учора прадстаўнікоў улады не было. Вяскоўцы кажуць, што ня бачылі іх тут і цягам году. Зрэшты, як кажа дырэктар Вушацкага музэю, філіяй якога ёсьць музэй у Бычках, Мікалай Кірпіч, раённае начальства амаль перастала цікавіцца быкаўскім музэем ці не адразу пасьля адкрыцьця. Спачатку будаўніцтва прысьпешвалі, а цяпер нікога не хвалюе, што нефарбаваныя сьцены так і не апрацаваныя сродкам ад шашалю ды іншых шкоднікаў, і што другія рамы для вокнаў дагэтуль ня зробленыя. Цяпер раённае кіраўніцтва рыхтуецца да сьвяткаваньня 100-гадовага юбілею Петруся Броўкі, мэмарыяльны музэй якога таксама месьціцца ў Вушацкім раёне. Гэта філія менскага літаратурнага музэю. А што да пэрспэктываў музэю Васіля Быкава, то клопат пра гэта цалкам лёг на плечы вушацкіх "музэйшчыкаў" і перадусім дырэктара Мікалая Кірпіча.

(Кірпіч: ) «Як мы тут выкруцімся, я ня ведаю, але мы распрацавалі навуковую канцэпцыю і зробім экспазыцыю па Вушацкім пэрыядзе жыцьця Быкава – ад нараджэньня да таго часу, як ён паехаў адсюль вучыцца. Ёсьць добрыя матэрыялы, малюнкі Васіля Быкава, так што зробім!»

Нагадаю слухачам, што гэты месяц у нашым эфіры прысьвечаны Васілю Быкаву. Цяпер некалькі разоў на тыдзень гучыць перадача Аляксандра Лукашука «Лісты на Свабоду» пра яго перапіску з Васілём Быкавым. Сёньня ў вечаровым эфіры – чарговая перадача цыклю. А на гэтым тыдні прагучаць і некалькі перадачаў Сяргея Навумчыка, прысьвечаных апошнім тыдням Васіля Быкава.

***Браніслава Станкевіч.***



# АЛЕКСАНДР ЛУКАШЕНКО ПОМИЛОВАЛ ЭКС-УПРАВЛЯЮЩУЮ ДЕЛАМИ ПРЕЗИДЕНТА ГАЛИНУ ЖУРАВКОВУ?

В феврале этого года суд признал ее виновной по ч.4 ст.210 Уголовного кодекса (хищение путем злоупотребления служебными полномочиями, совершенное организованной группой либо в особо крупном размере). В результате ее деятельности государству, по мнению правосудия, был нанесен ущерб в размере более 3 млн долларов. В ходе разбирательства Галина Журавкова виноватой считает себя только перед президентом.

Тем не менее суд, согласившись с прокурором, приговорил ее к 4 годам лишения свободы. Учитывая тяжесть обвинения, вердикт можно назвать относительно мягким. Однако на этом странное благоволение к Журавковой не закончилось. Даже спустя несколько месяцев после суда ее не спешили этапировать в колонию.

По информации «БДГ», неофициально полученной из правоохранительных органов, Александр Лукашенко подписал указ о помиловании своей бывшей соратницы.

Когда же корреспонденты «БДГ» попытались официально подтвердить данные сведения, собеседники в официальных структурах не могли ни подтвердить, ни опровергнуть нашу информацию, хотя, казалось бы, чего уж легче. Единственный внятный ответ был получен от Департамента по исполнению наказаний МВД. Там заявили, что осужденная Журавкова не прибыла в места лишения свободы.

## ВЯЛІКІЯ ТВОРЦЫ ЕЎРАПЕЙСКАЙ СЦЭНЫ

***Напалеон (1769-1821)***

Войнамі, дыпламатычнымі і дынастычнымі манеўрамі з'яднаў пад сваім скіпетрам цэлую Еўропу. Быў выбітным дзяржаўным арганізатарам. Узмацніў адміністрацыю, рэарганізаваў фінансавую і праўную сістэму, падпарадкаваў сістэму адукацыі дзяржаве. У пераможаных дзяржавах звяртаўся да народу, па-над галовамі манархаў, чым заваяваў папулярнасць.

***Арыстыд Брыян (1862-1932)***

Французскі палітык, парламентарый, пасол у Палацы Прадстаўнікоў, лаўрэат Нобелеўскай Прэміі Міру, 10-кратна выконваў функцыі прэмьера Францыі.

У 1927 г. прыняў ганаровае старшынства Саюзу Панеўрапейскага, які быў утвораны Рыхардам Кадэнхофам-Калергі. Сваю палітычную дзейнасць прысвяціў ідэі палітычнага аб'яднання Еўропы.

"Аб'яднацца, каб магчы жыць і расквітаць; гэта абсалютная неабходнасць, перад якой сёння стаяць народы Еўропы".

"Думаю, што паміж народамі, якія геаграфічна згрупаваныя, як народы Еўропы, павінна існаваць нешта падобнае да федэральнага саюзу; гэтыя народы павінны кожны момант мець магчымасць завязвання кантактаў, дыскусіі аб сваіх інтарэсах, прыняцця супольных рашэнняў, якія дазволілі бы ім у пэўны момант аказаць супраціўленне небяспечным сітуацыям, калі б такія паўсталі. Я хацеў бы прыкласці ўсе намаганні, каб збудаваць менавіта такі саюз".

***Альчыд дэ Гасперы (1881-1954)***

У 1945-1952 быў прэмьерам Італіі. Шмат гадоў прысвяціў дапрацаванню праекту аб'яднанай Еўропы. Галоўнай думкай яго дзеянняў было імкненне да абароннай супольнасці як элементу, які забяспечвае мір і прадухіляе грамадзянскія войны. Прыхільнік і абаронца плюралістычнай дэмакратыі і таксама істотнай ролі парламенту ў інстытуцыянальнай сістэме дзяржавы.

"Мы імкнемся да ўтварэння федэрацыі любячых свабоду еўрапейскіх дзяржаў, непасрэднага прадстаўніка народаў поруч з прадстаўніцтвам урадаў; еўрапейскіх збройных сілаў, абапёртых на добраахвотную рэкрутацыю і адданых кіраўніцтву супольнасці народаў; супольнай праўнай сістэмы і еўрапейскага грамадзянства разам з грамадзянствам дзяржаўным".

***Йоган Вільям Баен (1897-1976)***

Галяндскі палітык, міністр замежных спраў, стваральнік праекту Еўрапейскай эканамічнай супольнасці. Меў уласную канцэпцыю Еўропы. Быў пераканаю, што еўрапейская гісторыя створана не толькі з супрацоўніцтва і абмену, але і з войнаў і канфліктаў, аднак прынесла падабенства думак, супольныя каштоўнасці, блізкасць поглядаў на жыццё, супольныя карані цывілізацыі. Лічыў, што Еўропа патрабуе ўлады "наднароднай", незалежнай ад урадаў краін-удзельніц, здольнай да паступовага прыняцця ад іх адказнасці не толькі за галіну эканомікі, але таксама за сацыяльную сферу.

"Кожная новая ідэя свабодна запускае карані, занадта свабодна, каб не выклікаць нецярпення ў тых, хто адкрыў яе першы. Але раз кінутая, набірае жыцця і – калі з'яўляецца добрай – прасякае незаўважна нават думкі тых, хто найбольш супраціўляецца, развіваецца і дажывае да таго дня, калі становіцца прынятай як відавочная і нармальная".

## ЦІ НАКОРМІЦЬ ФЕРМЕР КРАІНУ?

Каб адказаць на адвечнае пытанне, дастаткова звярнуцца да фактаў. А яны, як сведчыць начальнік планава-уліковага аддзела ўпраўлення райвыканкама, гавораць наступнае: летась у асабістых гаспадарках грамадзян нашага раёна было атрымана 92% ад агульнага аб'ёму бульбы, 89% агародніны, 36% малака, 16% збожжа, 10% мяса. І гэта амаль усё дасягнута з мінімальным удзелам тэхнікі, потам і крывёю. Сведкамі якога дзіва мы б сталі, калі пад гэты сапраўды ўсенародны парыў была б своечасова падведзена матэрыяльна-тэхнічная база.

## МАЛАКО—ДЗЯРЖАВЕ

З пачаткам пашавага сезону жыхары вёскі Старыя Ранчыцы пачалі здаваць малако на мясцовы малаказавод. Справа арганізавана так, што малаказвоз пад'язджае ў час абедзенай дойкі прама на поле, і жанчынам не трэба цягнуць надоенае малако на веласіпедзе паўтара-два кіламетры дахаты. Наадварот, многія вязуць з дому ранішні ўдой, каб і яго здаць дзяржаве.

Усе здаюць з ахвотай яшчэ і таму, што ім ставяць аднолькава добрую тлустасць малака—звыш 4%. У мінулым годзе, калі малако вазіў спецыяльна прызначаны возчык, па тлустасці пастаянна ўзнікалі спрэчныя пытанні.- Той, хто неналіваў возчыку, меў тлустасць 2,8% і меньш.

Той жа, хто рэгулярна падносіў чарку, меў 5% і больш. Адкрытым пакуль што застаецца адно пытанне: калі дзяржава ўстановіць нармальную цану на гэты важны прадукт харчавання.




**Заснавальнік і рэдактар: Георгій Станкевіч**

**Адрас рэдакцыі:** Бешанковіцкі раён, в. Старыя Ранчыцы, тэл. 37455, e-mail: stan62@tut.by

Наклад: 290 асобнікаў. Выдаецца пры падтрымцы Віцебскага аддзялення ГА "Фонд імя Льва Сапегі". Распаўсюджваецца бясплатна.